

ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

# АБАЖУР

№ 3 (127) 2019

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS

## Наста Бойка:

*«Я б хацела бачыць журналістыку ў нашай краіне свабоднай, без падзелу на дзяржаўную і недзяржаўную»*



# Адбылася прэзентацыя кнігі «Остров Суоми. Осуществленная утопия».

**Яе аўтары – журналіст, сябра БАЖ Канстанцін Скуратовіч і гісторык Аляксандр Куляеў. Ідэя напісання кнігі, па словах аўтараў, з'явілася пасля расійска-грузінскай вайны. Тады савецкая метраполія, абвінаваціўшы былую калонію ў парушэнні дзяржаўных інтарэсаў, акупіравала Абхазію і Паўднёвую Асецію і стварыла на іх тэрыторыях дзве псеўдасуверэнных дзяржавы – сатэлітаў Расіі.**

Гэта вайна выклікала вялікі рэзананс на ўсёй постсавецкай прасторы, напалохала кіраўніцтва новых незалежных дзяржаў, іншых суседзяў Расіі, якія набылі суверэнітэт дзякуючы краху СССР.

Дарослы чытач памятае нашумелы ў свой час раман Васіля Аксёнава «Остров Крым». Апублікаваны ў часопісе «Юность» на пачатку 1990-х, ён таксама выклікаў шмат меркаванняў ды перасудаў:

– Якім бы зараз быў Сімферопаль, калі б арміі Врангеля насамрэч удалося не пусціць у Крым бальшавікоў?! – выкрыквалі энтузіясты.

Між іншым у ХХ стагоддзі аналагічны літаратурнаму раману Аксёнава праект быў рэалізаваны ў Фінляндыі, дзе здолелі адстаяць свой дзяржаўны суверэнітэт, прадухіліць бальшавізацыю краіны і вывесці яе на самыя перадавыя пазіцыі ў свеце.

Гэта кніга пра лёс краіны, людзей і грамадства, якія шукалі свой шлях у найноўшай гісторыі.

Таму падзеі ў сучасным Крыме, на Данбасе вельмі нагадваюць палітычныя ды ваенныя тэхналогіі, якія выкарыстоўваліся Савецкім Саюзам супраць суверэннай Фінляндыі. У той вайне агрэсар сваіх мэтаў не дасягнуў.

Увогуле кніга «Остров Суоми. Состоявшаяся утопия» застаецца актуальнай, а калі ўлічваць падзеі ў памежных з Расіяй дзяржавах, чытаецца як напамін пра будучае.






**2 Наста Бойка:** ***«У мяне ёсць план на ўласнае медыя праз некалькі гадоў»***

**7 Вайна сусветаў: чаму няголеныя падпахі перамагаюць**
М. Малевіч





**12 Гендэрная павестка беларускіх СМІ**
*Гендэрная эксперткa Ірына Саламаціна называе тыповыя памылкі*

**15 Таццяна Каравенкова:** ***«Я звычайна даю здачы ў адказ на хамства»***





**22 Ірына Новік:** ***«Адчуваю сябе Калумбам!»***



ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

# АБАЖУР

**№ 3 (127) 2019**

**Выдавец:** ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
Перыядычнасць: 1 раз у 3 месяцы
Выдаецца са снежня 2000 г.

**Галоўны рэдактар**
Уладзімір Барысавіч Дзюба

Скарыстаны здымкі Таццяны Ткачовай: 1-я і апошняя вокладкі нумара.

Выданне зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэгістрацыйны № 833 ад 04.12.2009.
Падпісана да друку 19.06.2019.
Дата выхаду 28.06.2019.
Фармат 60х84/8.
Папера афсетная.
Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 8,0
Наклад 300 асобнікаў.
Замова № .
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/142 ад 09.01.2014, № 2/34 ад 23.12.2013.
Распаўсюджваецца бясплатна.



**Адрас рэдакцыі:**
**220004, г. Мінск,**
**вул. Кальварыйская, 16-265.**
**Тэл.: (029) 126-70-98**
**E-mail: abajur@baj.by,**
**baj@baj.by**
**Сайт: www.baj.by**



Друкарня ТАА «МЕДЫСОНТ»
ЛП № 02330/0552782
ад 01.10.2010 г.
Адрас: 220004, г. Мінск,
вул. Ціміразева, 9.
Тэл.: (017) 203-74-10,
(017) 203-53-41,
(029) 623-74-10
www.medisont.by

Вольга Хвоін,
baj.by



# Наста Бойка:

# У мяне ёсць план на ўласнае медыя праз некалькі гадоў

**З Настай Бойка, журналісткай «Еўрарадыё», мы размаўлялі двойчы, з перапынкам у паўгода. За гэты час у жыцці гераіні адбыліся перамены, якія засведчылі, што калі ты робіш выбар, то падтрымка блізкіх вельмі важная. Бо надае ўпэўненасці, дае адчуванне зямлі пад нагамі. Яна піша на псіхалагічна цяжкія сацыяльныя тэмы і перажывае кожную гісторыю. Аднак мяняць тэматычны накірунак у сваёй прафесійнай дзейнасці не збіраецца.**

Першая наша сустрэча адбылася восенню, калі пачаўся судовы працэс па справе аб смерці салдата Аляксандра Коржыча. Тады Наста асвятляла гэту трагічную гісторыю і хадзіла на судовыя паседжанні штодня.

***— Наста, як ты пачуваешся ў гэтым маскулінным свеце, у норавы якога даводзіцца штодня акунацца?***

— Гэтая крымінальная справа, гэтая тэма для мяне важныя. Я — капітанская дачка, мой бацька сышоў з войска, калі мне было чатыры гады. А нарадзілася я ў пасёлку Лакаматыўны, што ў Чалябінскай вобласці. Гэта недалёка ад мяжы з Казахстанам. Мама была ваеннай медсястрой, бацькі і пазнаёміліся ў шпіталі. Дзядуля служыў у ракетных войсках стратэгічнага прызначэння. Вайскоўцы для мяне — блізкія людзі, а іх свет не чужы.

Пасля першай паездкі ў Барысаў на суд па справе аб дзедаўшчыне я пазваніла бацьку з пытаннем, ці сапраўды такое адбываецца ў войску. Бо для мяне вайскоўцы заўсёды былі людзьмі з вялікай літары. Тата адказаў, што такое бывае. Да гэтага ж я бачыла толькі адзін бок…

Я не ведаю, што сказаць пра свае адчуванні — гэта нейкая разгубленасць. Я слухаю пра факты дзедаўшчыны, якія агучваюцца ў судзе, і з аднаго боку мне цікава, што ж будзе далей. А з іншага я хачу зразумець, чаму так адбываецца: сітуацыя тыповая толькі для Печаў ці ўвогуле для постсавецкага войска?

Страшна было, калі на працягу двух тыдняў на мяне ўвесь час глядзеў адзін з абвінавачаных. А другі сяржант, які знайшоў цела Сашы Коржыча і праходзіў па гэтай справе сведкам, быў асуджаны раней і таму знаходзіўся падчас працэсу ў клетцы. Аднойчы пасля судовага паседжання ён сказаў: «Можна гэтую дзяўчыну ў зялёным на пару слоў?»

Гэты чалавек папрасіў мой адрас і паабяцаў напісаць ліст. Я не чакала такога пытання, не паспела зарыентавацца і дала яму свой хатні адрас. Мяркую, што з прафесійнага погляду я паступіла правільна, нават калі нічога сенсацыйнага ён і не напіша, мне ўсё ж цікава.

Да «Еўрарадыё» я супрацоўнічала з *TUT.BY*, і гэта няпроста для журналіста-пачаткоўца. Жэня Карпаў — мой вялікі настаўнік, хоць ён і даволі хутка звольніўся з партала. Мой першы сур'ёзны тэкст, які добра чыталі, перадрукоўвалі іншыя медыя, — гісторыя пра тое, як амапаўцы збілі двух падлеткаў. Яшчэ я пісала матэрыял пра назіранне за выбарамі дэпутатаў у акрузе, дзе адным з кандыдатаў праходзіла Ганна Канапацкая. У гэтай выбарчай акрузе былі выяўленыя факты фальсіфікацыі. Пасля той публікацыі мяне нават у аўтобусе пазнавалі, недзе месяц я пачувалася зоркай.

Думаю, у той момант я адчула, што не памылілася ў сваім намеры стаць журналістам.

***— Сям'я не была супраць такога рашэння?***

— Была. Бацька хацеў, каб я стала інжынерам. Але мне ніколі асабліва не давалася матэматыка. Гэта адзіны прадмет, па якім у маім атэстаце 8 балаў. Я была алімпіядніцай па гісторыі, грамадазнаўству, мове — такі філолаг-гуманітарый. Але бацька вельмі хацеў, каб я пайшла ці ў МНС, ці проста ў нейкі інжынерны ўніверсітэт.

Адыграла ролю тое, што падчас навучання ў ліцэі мяне прызначылі рэдактарам ліцэйскага весніка. Я пачала супрацоўнічаць з раёнкай. У мяне захоўваюцца ўсе газеты з маімі тэкстамі. Быў адзін класны артыкул пра ўцекача з Украіны — вайна на ўсходзе Украіны толькі пачыналася, гэта былі першыя ўцекачы, ім яшчэ ніхто не дапамагаў. Тэкст не друкавалі недзе 4 ці 5 месяцаў, а калі ён выйшаў, то, натуральна, была скасавана ўся крытыка тых падзей і датычна кіраўніцтва горада.

Мама падтрымала мой выбар, калі зразумела, што з-за непаразуменняў на гэтай глебе мы пачалі сварыцца. Я казала бацькам, што не разумею, чым буду займацца, калі не буду пісаць. Я ведала, што калі не стану журналісткай, то напішу кнігу, што маё жыццё будзе звязана са словам.

Бацькі перажываюць, што я пішу на сур'ёзныя тэмы. Я для іх усё яшчэ студэнтка.

***— Які ж іх вобраз твайго шчаслівага жыцця?***

— Сям'я, дзеці, унукі для іх, добрая праца. Але для мяне нармальна тое, як я жыву цяпер — хаджу штодня ў суд на гэты працэс, стамляюся, мне гэта падабаецца. Гэта маё. Мне падаецца, я занадта маладая, каб думаць пра сям'ю.

***— Ці ёсць, на твой погляд, хібы або перавагі для жанчыны ў прафесіі журналіста?***

— Думаю, мінусы для жанчыны ў тым, што ў большасці сітуацый нам трэба быць асцярожнымі. Я б не сказала, што да жанчын заўсёды ставяцца лепш.

Летась 25 сакавіка (Дзень Волі. — *Рэд.*) я ішла каля парка Чалюскінцаў, калі фактычна ўсе падзеі скончыліся. Тады я дапамагала журналістам. Спрабавала прайсці з пасведчаннем журналіста праз ачапленне, але амапавец мне сказаў: «Табе гэта трэба? Я цябе прапушчу, а цябе там схопяць».

А пазней я ішла праз двары, там жа ішоў і натоўп амапаўцаў у поўнай экіпіроўцы — «касманаўтаў». Адзін з іх звярнуўся да мяне: «Девушка, здравствуйте».— «Здравствуйте».

Ён паглядзеў на пасведчанне, нешта яшчэ сказаў і ўдарыў мяне па жываце гумавым дручком. І пайшоў далей за сваімі «касманаўтамі».

Я так і не зразумела, што гэта было. Я не ведаю, навошта гэта было зроблена. Сіняк у мяне застаўся. Тое, што я дзяўчына, мяне не аберагае.

***— Бацькі хвалююцца за тваю бяспеку?***

— У бацькоў ёсць яшчэ боязь наконт маёй прафесіі: а раптам гэта небяспечна. Але спадзяюся, яны зразумеюць, што я зрабіла свой выбар, я дарослы чалавек, які жыве сваім жыццём.

***— Чаму недзяржаўныя медыя?***

— Не ведаю, як адразу адказаць на гэта. На *TUT.BY* я патрапіла выпадкова: пазнаёмілася з супрацоўнікам партала і спытала, ці можна ў іх прайсці практыку, да таго ж ва ўніверсітэце наш выкладчык Градзюшка параіў мне ісці ў web-журналістыку.

Я адразу думала пра газету «Звязда», бо гэта друкаванае выданне, беларускамоўнае. Хаця ў мяне доўга ў школе былі праблемы з беларускай мовай. Толькі ў 10–11 класах я выправілася, бо пачала шмат чытаць па-беларуску. Настаўніца параіла мне кнігі Караткевіча, і гэта дапамагло — усё пайшло.

Заўсёды хацела стаць ваенным карэспандэнтам. Можа быць, ад «Еўрарадыё» некуды паеду. Ой, мама прачытае і ёй стане кепска ад гэтага *(смяецца)*. Але пакуль я не гатовая да такога павароту.

Нядаўна адзін калега мне сказаў нешта накшталт «што ты такая юная і пішаш на сур'ёзныя тэмы думаеш, ужо журналістка?». Але мне падаецца, што гэта тая прафесія, у якой шмат хто пачынае рана. Гэта нармальна.

Калі я прыйшла на «Еўрарадыё», быў страх, што нешта не атрымаецца, таму я больш часу праводзіла з калегамі. У мяне пакуль няма абавязкаў — дзяцей і сям'і, я засяроджаная на тым, каб стаць добрым, крутым журналістам.

Шмат хто з калегаў усё ж успрымае мяне з лёгкім гумарам: яна ж маладая. Але, калі шчыра, гэта крыўдзіць. Напэўна, я гэта блізка ўспрымаю, бо жыву працаю.






…Мінула паўгода. За гэты час судовы працэс, які асвятляла Наста, завяршыўся. Фігуранты крымінальнай справы аб давядзенні да самагубства радавога Аляксандра Коржыча ў навучальным цэнтры ў Печах атрымалі рэальныя тэрміны пазбаўлення волі. Аднак маці Аляксандра катэгарычна не згодная з такім рашэннем.

***— Наста, давай вернемся да той рэзананснай справы. Быццам бы знайшлі і пакаралі вінаватых, хаця далёка не ўсе згодныя з такім рашэннем суда, а здарэнні ў войску працягваюцца. Якое тваё стаўленне да таго, што журналіст інфармуе грамадства з мэтаю выправіць хібы, аднак па сутнасці нічога не мяняецца?***

— Я не ўпэўненая, што хлопцы, якіх асудзілі, сапраўды вінаватыя. Падаецца, на іх проста спусцілі ўсіх сабак.

Маім героем 2017–2018 гадоў стала Святлана Коржыч, мама Аляксандра. Гэта самая моцная жанчына, якую я сустракала ў сваім жыцці.

Я дагэтуль лістуюся з тым хлопцам, які прасіў мой тэлефон пасля судовага паседжання. Ён мусіў выйсці праз год, але яго зноў асудзілі за парушэнне рэжыму папраўчай установы і дадалі тэрмін.

Мне крыўдна, што такое здараецца, што нічога не змяняецца. Цяпер я займаюся справай Андрэя Макаеда, які выпаў з вакна вайсковай часткі ва Уруччы.

Святлана Коржыч на апеляцыі ў Вярхоўным судзе сказала, што ёй расказваюць пра дзедаўшчыну ў войску. І яна з іншымі матулямі хоча далей змагацца супраць гэтага. Канешне, Міністэрства абароны пасля ўсіх гэтых выпадкаў не хавае інфармацыю пра здарэнні. Аднак праблема палягае ў сістэме агулам, не варта забывацца і на людзей, якія ў ёй працуюць. Патрэбныя новыя падыходы.

Бо пішаш-пішаш-пішаш і нічога не змяняецца. Ну, злавілі трафарэтчыкаў, якія распаўсюджваюць наркотыкі, далі вымову міліцыянту, які ездзіць п'яны за рулём. І што?

У мяне пытанне і да сябе, і да людзей, якія працуюць у міністэрствах на высокіх пасадах: што вы можаце канкрэтна зрабіць? Бо я магу толькі пісаць, расказваць пра гэта.

***— Няма адчування, што гэта вада ў ступе — бессэнсоўная справа?***

— Часам мне хочацца змяніць тэматычны кірунак, але ўсё адно я вяртаюся да ранейшага. Бо мне гэта цікава. Але, канешне, крыўдна. З іншага боку, калі мы не будзем пра гэта расказваць, у міністэрствах будуць гэта хаваць. Людзі ж павінны ведаць, што адбываецца ў дзяржаўных структурах і што можа адбыцца з імі.

***— Што цябе натхняе, штурхае да таго, каб заставацца ў сацыяльный тэматыцы, а не сыйсці, да прыкладу, у той жа SMM, дзе гэта будзе праходзіць ускосна?***

— Пакуль я магу працаваць без натхнення і матывацый, бо мне проста цікава. Часам не хочацца перадаваць некаму свае тэмы, нават калі ёсць моцная загружанасць.

Цяпер мяне натхняюць мая сям'я, сяброўка, якая кажа, што чытае мае матэрыялы.

***— Восенню падчас нашай размовы ў цябе было больш песімізму датычна стасункаў з сям'ёй.***

— Я адчула змену ў стаўленні да мяне, да маёй працы. Напэўна, бацькі зразумелі, што я самастойны чалавек, які можа жыць самастойна, можа за сябе пастаяць. Я не ведаю, што адбылося ў іх галовах, але я вельмі гэтаму радая! Калі мама раней

магла сказаць: «Можа, лепш не пішы пра гэта», то цяпер такога няма.

***— Як бачыш сябе ў прафесіі праз пэўны час?***

— У мяне ёсць план на сваё медыя праз некалькі гадоў. Я вызначаю яго, як журналістыку, якая інфармуе грамадства пра ўзаемадачыненні дзяржавы і людзей. Але яшчэ не прыдумала назвы *(смяецца).*

Метрыкі, колькасныя дадзеныя мяне мала цікавяць. Я раблю працу для свайго чытача. У тым сэнсе, што мне ўсё роўна, набярэ матэрыял мільён праглядаў ці пяць тысяч. Галоўнае, каб я ведала, што матэрыял якасны і дапамагае людзям нешта зразумець, асэнсаваць.



Сёння напісала твіт, што хачу прачнуцца ў свае 30 гадоў і каб тады гэтыя тэмы не кранալі мяне так балюча. Я кожную гісторыю моцна перажываю. Бо, напрыклад, тыя ж салдаты — мае равеснікі.

Я б хацела бачыць журналістыку у нашай краіне свабоднай, без падзелу на дзяржаўную і недзяржаўную, каб я магла патэлефанаваць у любое міністэрства, а мне там далі адэкватны адказ. Каб можна было без праблем патрапіць на адкрыццё новага будынка Вярхоўнага суда (нам не далі акрэдытацыю на гэта мерапрыемства), каб усе журналісты былі роўныя. Бо цяпер журналіст «СБ. Беларусь сегодня» можа паехаць у калонію ў Бабруйску і зрабіць матэрыял, а я не.

У нас ёсць смяротнае пакаранне, але няма магчымасці пагаварыць з асуджанымі, каб спытаць, што ў іх свядомасці. Дзяржава ставіцца да журналістаў незалежных СМІ як да трэцяга лішняга. Думаю, калі дзяржава зменіць сваё стаўленне да медыя, гэта паўплывае і на станоўчыя перамены ва ўладзе.

***— Табе падабаецца час, у якім ты жывеш?***

— Так! Я раней думала, што жыву ў нецікавыя часы, бо нічога не адбываецца лёсавызначальнага. Калі б я свядома магла ацаніць падзеі хаця б 2006 і 2010 года, гэта магло б паўплываць на станаўленне маёй асобы. Пратэсты «дармаедаў» у 2017 годзе — самыя масавыя грамадскія пратэсты, якія я асвятляла як журналіст.

Я нарадзілася ў 1997 годзе, маё дзяцінства — гэта час, калі ўсё было. Я нічога не бачыла жудаснага ў сваім жыцці, я не прашла ні праз што страшнае, што мяне змяніла б.

Але я гляджу, што адбываецца ў краіне, і мне цікава назіраць за стаўленнем людзей да падзей, як змяняецца моладзь, як дзяржава спрабуе прэсаваць, кантраляваць людзей, а яны на гэта адказваюць. Напрыклад, той жа адказ студэнтаў БДУ тролінгам на забарону крытыкаваць універсітэт.

Пачуваюся падарожнікам з друкавальнай машынкай.

Але я не хачу вялікіх узрушэнняў, я за перамены праз рэформы.

***— Не стамілася ад рытму прафесіі?***

— Не, бо я не спыняюся. Магчыма, у пабытавых пытаннях я марудная, але ў прафесіі хуткасць мне вельмі падабаецца. Я не праходзіла праз эмацыйнае выгаранне, праўда, гэтай зімой былі цяжкія моманты, калі было шмат працы, а я хварэла. Напэўна, я яшчэ не стамілася ад самога жыцця, таму магу за тыдзень аднавіць свае сілы.

Быў цікавы момант у звязку з прафесіяй. Восенню ў Мінску адмянілі канцэрт майго любімага гурта IC3PEAK. Мы запрасілі гурт да нас у эфір. Гэта цікавыя эмоцыі: ты слухаеш нейкага выканаўцу, а потым сутыкаешся з ім у рэальнасці. Напэўна, яны нават не здагадаліся, што тады прысутнічаў чалавек, які іх слухае ўжо пяць год. Такія магчымасці — бонусы журналістыкі.

**Фота Таццяны Ткачовай**

# Война миров: почему небритые подмышки побеждают



Мария МАЛЕВИЧ

**Разговор в стиле голубого и розового, где все женщины мечтают о замужестве, а все мужчины, как водится, не плачут, в развитых странах уже считается дурновкусием. Если мне зададут вопрос о том, что изменилось за последние несколько лет в белорусских СМИ, ориентированных по половому признаку, я честно скажу: изменилось все…**

## Эра феминизма

Наверняка исследователи и аналитики могут назвать все признаки и причины перехода от «традиционных» женских и мужских образов в прессе к тому, что мы имеем сегодня. Темы непростая и немаленькая, поэтому кратко изложу свое мнение. Точками невозврата, триггерами, которые, если не навсегда, то очень надолго изменили отношение к женской тематике, а вместе с нею и расстановку сил в медиа, стали книга российской журналистки Анны Старобинец «Посмотри на него» и флешмоб #MeToo. Книга про

потерю ребенка и многотысячные истории о случаях насилия в отношении женщин кардинально изменили отношения к темам, которые раньше считались табуированными. И в первую очередь перемены коснулись того, какими пресса видит женщин. В эпоху расцвета социальных медиа невозможно писать тексты о женских проблемах, игнорируя тысячи историй о насилии или потерях от целевой аудитории. Даже адресуя текст мужчинам.

Аудитория сказала свое слово. Рынок отреагировал. Нишевый флагман, ответвление крупнейшего белорусского портала *lady.tut.by,* сегодня публикует не только советы психологов о том, как сохранить брак, но и позволяет себе противиться фетшэймингу, старается не хайпить на образе «яжематерей» и публикует довольно сдержанные тексты о девушке, которая несколько месяцев не брила волосы на теле. Слова «мое тело — мое дело» находят все больше отклика в СМИ. В самых разных проявлениях.

Феминизм не зря называли словом года. Установка «все феминистки — одинокие немытые толстухи» находит все меньше откликов даже среди читателей и читательниц. Хорошим тоном стали большие материалы, посвященные борьбе с домашним насилием, истории успешных женщин — золотая середина, равновесие в мире, где на одном полюсе «феминизм», а на другом — «традиционные ценности».

Стоит признать, что за последние годы женская тематика на страницах белорусских изданий все же стала ближе к «женской повестке» в политическом смысле. Право на достойное медицинское обслуживание, противодействие домашнему насилию и многие другие темы начали выходить на первый план в общественных дискуссиях, а значит, и на страницах прессы. «Саблезубые белорусские феминистки» — реальный заголовок статьи от радио «Свабода». Провоцирует, но под ним скрывается комплементарный текст в отношении женщин с активной позицией. К слову, именно на радио «Свобода» выходит программа Ганны Соусь с красноречивым названием «Толькі жанчыны». Рассуждения на самые актуальные и острые темы от женщин и никаких стереотипов. Если здесь и говорят о кулинарии, то в контексте политической кухни.

## *Cosmo* как предчувствие

Несмотря на то что на страницах белорусских СМИ все чаще появляются качественные материалы на злобу дня именно в женской повестке, специализированных изданий не стало больше. *Cosmopolitan.* Именно этот бренд мне назвали девять человек из десяти, когда я попросила вспомнить белорусские женские издания. Только один человек вспомнил про журнал «Гаспадыня». Правда, изданий в целом не стало больше. Появились и уверенно держатся на плаву «Имена», но гендерная тематика здесь присутствует наравне с другими. Много о проблемах полов пишет скандальный *kyky.org,* причем в последнее время издание приводят в качестве примера того, как нужно писать о проблемах женщин. Минский городской журнал *CityDog* вообще войдет в историю белорусских медиа как первый и едва ли не единственный сайт, который поднял знамя феминитивов. Теперь все героини по умолчанию становятся авторками, психологинями или представительницами других профессий, но с окончанием





женского рода. Многие возмущались, но постепенно привыкли.

Несмотря на явный прогресс, стереотип о том, что женские издания читают только гламурные дамочки и раз журнал/сайт для женщин, следовательно, про замужество и макияж, никуда не девался. Сегодня «женское» читают все и довольно регулярно. Просто жизнь складывается так, что прогрессивный взгляд на гендерные вопросы чаще всего демонстрируют не узкопрофильные издания. Те, кто вроде бы по долгу службы должны знать о том, чего действительно хотят женщины, продолжают кормить советами из серии «как приворожить суженого борщом».

К слову, упомянутый журнал *Cosmopolitan* (в Беларуси продается российская версия) также поднял стяг феминизма и может действительно порадовать качественными журналистскими текстами на разные темы.

## Конец обеда

Упоминание о том, что разделение на розовый и голубой мир в прогрессивных западных СМИ считается чем-то почти неприличным, было сделано не для красного словца. В некоторых европейских странах можно получить серьезные проблемы и катастрофические репутационные потери за попытку отправить женщин к плите, а мужчин — в гараж. У нас же легкое пренебрежение к женской тематике — главный стереотип, с которым приходится сталкиваться. А уж когда речь заходит о дамских изданиях, то, как говорил персонаж одной из книг Макса Фрая (кстати, женщины, которая выдавала себя за мужчину), «полный конец обеда». Мол, ну что вы там можете написать? Даже бдительные читатели «Народной Воли» в возмущении звонили заместителю главного редактора **Марине Коктыш**, когда на последней странице издания появился обзор купальных костюмов — не гоже тянуть в газету «эти женские штучки».

Между тем в Беларуси зарегистрировано более двух десятков изданий для женщин. Большинство — брошюры о готовке, полезные советы в стиле «Худеем вместе», недорогие журнальчики о посадках, рукоделии, хобби, которые в изобилии выпускает, в частности издательство «Толока». Многие интернет-издания, например *diva.by*, *velvet.by*, предлагают в основном рекламные тексты и обзоры. Но чаще всего в женской прессе собрано всего понемногу — мода, еда, ремонт и спорт, отношения, огороды, путешествия и книги. Одним словом, как в жизни.

Конечно, каждое из изданий предлагает свою изюминку. Глянец для женщин «Гаспадыня» традиционно публикует довольно много советов по ведению огорода и сада. Текст «Водный скопидом» лично меня заинтриговал прямо с заголовка. Оказалось, рассказ про садовый кактус.

При этом молодые, если не по возрасту, то по духу, издания поддерживают стремление современных белорусок выйти за рамки дискурса «Kinder, Küche, Kirche, Kleider». Конечно, темы-архетипы вроде «как жрать и не толстеть» или «что надеть» присутствуют на страницах всех женских и некоторых мужских изданий. Где-то обсуждают, что плоский живот — недостижимый идеал, где-то предлагают питаться исключительно черешней. Спрос на подобную информацию будет всегда, но ставку обычно делают на другое.

Глянцевый «Город женщин», например, придерживается концепции life stile — здесь вам и интервью, и обзоры книжных новинок, и описания путешествий. Даже исконно дамские темы вроде кулинарных рецептов выполнены в виде авторской колонки с художественными фотографиями **Арины Лисецкой**. Одно из самых полных и откровенных интервью с опальным **Сашей Варламовым** вышло именно здесь.




## Мужской мир

Плохая новость для сторонников мужчиноцентричной модели общества и семьи — куда больше текстов в современных женских изданиях посвящено бытовым советам, красоте и здоровью, детям, чем вожделенному замужеству. Пожалуй, только журнал «Алеся» соблазнился отдельной рубрикой «Мужчина мечты», но и в ней не ищут избранника, а предлагают интервью с интересным визави.

Ветеран белорусского глянца «Женский Журнал» раньше вообще без обиняков предлагал рубрику «Секс», но в последнее время сменил ее на целомудренные «Отношения».

Кстати, публикуются в женской прессе как женщины, так и мужчины: авторскую колонку в глянцевом «Городе Женщин» вел блогер и журналист **Константин Придыбайло**, на *lady.tut.by* — писатель и колумнист **Александр Зантович**.

И если место мужчины в женской теме определено, то сами про себя мужчины пишут с трудом. Кажется, собирая все существующие стереотипы о представителях «сильного пола». И едва ли не придумывая новые.

Перед тем как начать обзор мужских изданий Беларуси я традиционно задала вопрос людям из своего окружения о том, какую отечественную газету, журнал или сайт соответствующей направленности они знают. И если в случае с дамскими СМИ хотя бы один человек из десяти вспомнил журнал «Гаспадыня», то с контентом для сильного пола все просто — «не знаю», Playboy и Maxim. Ах да! Еще был такой вариант: «Охота и рыбалка», ой, нет, это, кажется, магазин»…

При этом в «общечеловеческих» СМИ сложно найти тексты, которые были бы посвящены чисто «мужским» проблемам. Почему? Даже если не верить словам феминисток, факты говорят сами за себя. Пресса по-прежнему ориентирована на мужчину, обращается к нему. По умолчанию. Не потому ли мужских изданий — мизерная доля от общего числа? Их даже несравнимо меньше, чем женских СМИ. Зачем, если вроде бы все работает на эту аудиторию?

Затем, что это не так.

## Редкий зверь

И все-таки они существуют. *Google* предлагает не такой уж богатый выбор. Еще пару лет назад это были сборник сканвордов и «Журнал XXL», который был да сплыл, а сегодня на первом месте в поисковике сайт «Мужской.бел». И здесь все серьезно. Рубрики «Секс», «Пора валить» и «Спорт» настраивают на определенный лад. На первый взгляд совершенно мачистский контент на поверку оказывается вполне ламповым и даже не пытается убедить всех в том, что женщина — это украшение самца. Напротив, много советов о том, как доставить партнерше удовольствие, как быть симпатичным и стильным. Есть даже текст, который называется «Хочу выглядеть как Коля Лукашенко. Что мне делать?». О чем? Не знаю. Не хочу выглядеть как Коля. Подняты ли серьезные проблемы? Армия? Депрессия? Разводы и воспитание детей? Вскользь. Все-таки мачо все еще не плачут, хоть уже и могут красить ногти.

Ищем дальше. Услужливая поисковая машина предлагает журнал «Спецназ». Он рассчитан на «тех, кто служил, служит либо мечтает служить в силовых структурах Беларуси». Куда уж брутальнее и мальчуковее? В сети журнал уютно устроился на странице учредителя — газеты «СБ. Беларусь сегодня». Издание действительно с планеты Марс: имеет рубрики о военной технике, военных действиях прошлого, прелестях службы в армии. И если гендерная принадлежность вопросов не вызывает, то с национальной не все так просто. Через один на



сайте материалы об успехах русского оружия. Каким образом этот факт поддерживает дух патриотизма у белорусских военных — та еще загадка.

Суровость «Спецназа» и запахи «Охоты и рыбалки» многим мужчинам по душе, но и красоте есть место в жизни «сильной половины». Белорусы сегодня подвергаются едва ли меньшему давлению со стороны глянцевых образов, чем соотечественницы. Мы мало говорим о том, что с журнальных страниц глядят не только обворожительные пышногрудые и волоокие красотки, но и мускулистые мачо с пышными волосами там, где нужно, бархатистой кожей и идеальными зубами. Мальчики тоже хотят быть красивыми и стильными. И тоже задаются вопросом: важна ли для мужчины внешность? Правда, приходят к другим, нежели дамы, выводам, а спортивные и модные журналы не являются обязательным атрибутом успешного самца.

При этом тиражи Men's Health (российская франшиза) не залеживаются на прилавках, а вот отечественного аналога гида по тренировкам, эдакого мужского «Худеем вместе», нет. Необходимую информацию неутомимые ищут на сайтах, в блогах и видеокурсах по всему свету, не ограничиваясь только русскоязычными ресурсами.

Но все же мужчины гораздо менее чувствительны к намекам о несовершенстве их внешности и темы вроде «жрать и не толстеть» их почти не трогают. Бизнес на мужских комплексах о внешности не удалось сделать еще ни одному белорусскому изданию.

Зато уж где создатели контента для мужчин оторвались, так это на интимной теме. Интернет-журнал *MENSBY.COM*, например, радует читателя своей откровенностью. Кто сможет пройти мимо текста с заголовком «Сделать так, чтобы она дала»?! В принципе, содержание текста полностью отвечает названию — несколько советов о том, что делать и не делать, чтобы ускорить движение в сторону кровати. Советов, кстати, довольно честных. Например, не рекомендуют барышень обманывать или подкупать.



## И вас посчитали

Многие сферы жизни, в которых сегодня одинаково задействованы жители Беларуси обоих полов, почему-то все еще пытаются продавать как узкогендерные. Такими клубами по интересам можно назвать автомобильные сайты, газеты, журналы, программы на ТВ, рубрики и т.д.

Несмотря на то что доля женщин-автомобилистов в Беларуси постоянно растет, автосайты все еще делают ставку на мужчин. На *auto.onliner.by*, например, размещен обзор складных велосипедов, который радует не только полезной информацией, но и фотографиями откровенного декольте барышни, тестирующей велики.

По большому счету многие на самом деле мужские издания не уточняют свою гендерную принадлежность. При этом вряд ли у кого-то возникнут сомнения в том, что «Прессбол» или *sport.tut.by* рассчитаны именно на мужчин, ведь речь идет об эталонных «самцовых» занятиях. Так уж исторически сложилось, что охота, война, спорт и авто всегда больше интересовали мужскую часть человеческой популяции.

Причем ни в одном мужском издании, которое попалось мне в руки, не поднимались серьезные темы. Нет, конечно, замена ступицы и прикормка моржа — темы, имеющие право на существование. Но белорусские издания для мужчин выглядят немного фриковыми на фоне женских газет, журналов и сайтов. Только спортивные и автомобильные издания держат высокую планку. Но дело в том, что они не позиционируют себя как чисто мужские. При этом сложно найти издание, где можно было бы почитать о том, что мужчины не должны терпеть боль или стыдиться проявлять чувства. Такие тексты появляются и тут и там, но специального места у них нет. Почему? Вопрос прежде всего стоит адресовать аудитории. Наверняка найдутся те, кто скажет, что это женщины заполонили все кругом и привлекают к себе все внимание. Мое мнение иное и, боюсь, многим не придется по душе. Очевидно, что и в мире, и в медиа появляются новые правила. Женщинам и мужчинам придется играть на равных. В мире медиа — в том числе.

# Гендэрная павестка беларускіх СМІ



**Гендэрная эксперткa Ірына Саламаціна называе тыповыя памылкі беларускіх СМІ ў галіне гендэрна карэктнай падачы матэрыялу. Яна зазначае, што медыі ідуць за грамадскім меркаваннем, замест таго каб адлюстроўваць трэнды.**

## Па старой каляіне

Нават вельмі паважаныя СМІ зацікаўленыя ў хайпе з намерам яго манетызаваць. Не сакрэт, што часта заробак журналіста залежыць ад таго, які розгалас выклікаў яго тэкст. Адсюль з'яўляюцца дзіўныя, на мой погляд, загалоўкі і падача артыкулаў.

Выданне *KYKY.ORG*, напрыклад, «хайпіцца» на «жаночай» тэме ў самым горшым сэнсе гэтага слова. Хаця за апошнія пяць гадоў, па маіх назіраннях, яны крыху змянілі падыходы, пачалі больш узважана і пісьменна падаваць матэрыялы. Але любое заходняе СМІ, калі б яно прасоўвала той светапогляд, што і *KYKY.ORG*, мела б вялікія рэпутацыйныя рызыкі з перспектывай набыць славу жоўтай прэсы. І не заўсёды гэта віна журналістаў,

бо часта яны папросту не ведаюць, якія загалоўкі «прышыюць»да іх тэкстаў у рэдакцыі. Насамрэч любыя змяненні неабходна ўзгадняць з аўтарам публікацыі. І гэта праблема ўнутрырэдакцыйнай камунікацыі.

Калі возьмем шведскія СМІ, то яны ўплываюць на грамадзянскую супольнасць, а не проста адлюстроўваюць нейкія стэрэатыпы. Менавіта гэтага, як мне падаецца, не хапае ў беларускіх медыя.

Напрыклад, гадоў 10 таму амаль ніхто ў Беларусі не ведаў словаспалучэння *pro life*. І абмяркоўваць яго сталі не з падачы СМІ, а пасля таго як шэраг рэлігійных арганізацый і партый, арыентаваных на адпаведныя каштоўнасці, напісалі ліст у Міністэрства аховы здароўя з просьбай унесці змены ў заканадаўства. Пасля гэтага ўлады вырашылі ўвесці абавязковае кансультаванне перад абортамі. А пазіцыя *pro choice* дасюль вельмі слаба асвятляецца. Здаецца, гэта тэма выклікае моцны водгук аўдыторыі. Але хто разбіраўся са статыстыкай? У Беларусі малая колькасць абортаў, але яны застаюцца асноўным сродкам рэгулявання нараджальнасці сярод падлеткаў. А гэта зусім іншая праблема, і вырашэнне яе палягае ў інфармаванасці і адукацыі датычна сродкаў кантрацэпцыі.

***Шведскія СМІ ўплываюць на грамадзянскую супольнасць, а не адлюстроўваюць стэрэатыпы. Гэтага не хапае ў беларускіх медыя.***

Хто звяртаў увагу на тое, што сілы, якія выступаюць *pro life* і за ратаванне эмбрыёнаў, не пратэстуюць супраць смяротнага пакарання ў Беларусі? Зародыш нежыццяздольны па-за целам жанчыны. Тыя, хто вядзе барацьбу «за правы эмбрыёна», імкнуцца ў першую чаргу кантраляваць жанчын, заклікаюць замацаваць за жанчынай яе «галоўную» функцыю — дзетанараджэнне. Апошняе ўспрымаецца не як права, а як абавязак, бо ў краіне дэмаграфічны крызіс. Але жанчыны — гэта не толькі патэнцыйна «цяжарныя целы», яны гаспадыні сваіх цел і сваіх лёсаў.

«Жаночы» сектар НДА зусім невялікі і ўвесь час памяншаецца. Менш за адзін адсотак зарэгістраваных грамадскіх арганізацый закрываюць «жаночую» павестку і адказваюць на выклікі, што стаяць перад сучасным беларускім грамадствам. Да гэтага адсотка можна было б далучыць Беларускі саюз жанчын, але не выпадае. Бо ён перш за ўсё звяртае ўвагу на тое, што скажуць улады, а не на пазначаныя вышэй праблемы.

## Пра фемінітывы

У апошнія пяць гадоў з’явіліся выданні, якія спрабуюць фарміраваць нейкі парадак дня, прынамсі, яны выкарыстоўваць фемінітывы. Я шмат працую з журналістамі і журналісткамі. Часта мне высылаюць паглядзець тэкст, дзе прыбраныя фемінітывы, пра якія я казала. Аргументуюць тым, што гэта рэдакцыйная палітыка і іх усё роўна не надрукуюць. Добра, для мяне гэта не такая прынцыповая пазіцыя. Тады я прашу, каб, указваючы, напрыклад, што я сацыёлаг, пісалі спачатку маё імя. Для мяне гэта ўжо ламанне нейкага стандарта. Спачатку чытач бачыць, што я жанчына, а потым ужо маю прафесію: «Ірына Саламаціна, сацыёлаг». У той жа час з выкарыстання фемінітываў часам таксама спрабуюць зрабіць нейкі хайп.

## Непаслядоўнасць рэдакцыйнай палітыкі

Медыі звычайна маюць нейкую ўнутраную пазіцыю па спрэчных пытаннях. Але яна не агучваецца і чытачам часта незразумелая. Сёння можа з’явіцца праблемны матэрыял пра хатні гвалт, а заўтра — «хайпавы» тэкст, які транслюе сэксісцкія стэрэатыпы. Я разумею, што тут «і вашым і нашым», але тады і чытачы не бачаць у гэтым праблемы. Незразумелая мэта СМІ: паказаць негатыўныя паследствы гендэрнай няроўнасці ці плюралізм меркаванняў. Другое зрабіць вельмі лёгка — проста правядзі апытанку. Але якая карысць ад такіх матэрыялаў? На парадак дня ў грамадстве яны ніяк не ўплываюць.

На постсавецкай прасторы не склалася адзінага ўяўлення, што такое дэмакратычнае медыя, якое фарміруе новыя каштоўнасці. Тая ж «Медуза», якая «за ўсё добрае», сутыкнулася з харасмэнтам у рэдакцыі. Любое выданне, якое пазіцыянуе сябе як дэмакратычнае, можа сутыкнуцца з унутраным крызісам. Ці наша «Салідарнасць» — сур’ёзнае СМІ, якое займаецца палітычнай аналітыкай. Але ў той жа час мае рубрыку «Прыгажуня дня» з выявамі паўаголеных жанчын. Для мяне гэта цалкам дыскрэдытуе тыя каштоўнасці, што «Салідарнасць» спрабуе несці.

## Пра «гендэрную слепату»




У беларускіх СМІ працуе вельмі шмат жанчын. Але асвятляюць яны пераважна сацыяльныя аспекты, культуру, а мужчыны пішуць пра палітыку. Па вялікім рахунку, прыход жанчын у журналістыку не гарантуе палітызацыі некаторых «жаночых» пытанняў. Летась я рабіла маніторынг беларускіх СМІ па метадалогіі Глабальнага медыяманіторынгу. З 340 прааналізаваных навін толькі 13 прысвечаны тым ці іншым праблемам, звязаным з жанчынамі, ці маюць за галоўную гераіню жанчыну.

У чым справа? Ці гэта рэдакцыйная палітыка, якая скіроўвае позірк журналістаў у адзін бок, а ў другі — не, ці гэта самі журналісты не заўважаюць некаторых тэм? Напрыклад, мне трапіўся артыкул, здаецца, у газеце «Звязда» пра ўчастковага ў невялікім мястэчку. Такі ён добры міліцыянер, усім дапамагае… І далей сказ, што яго маці больш за 20 гадоў працуе грузчыкам на мясцовым заводзе. І фота гэтай жанчыны, якая трымае фота сына. Грузчык уваходзіць у спіс забароненных для жанчын прафесій! На мой погляд, журналістцы не хапіла нейкіх кампетэнцый, каб развіць гэту тэму. Спытаць, як успрымае гэтая жанчына цяжкую працу ці што адчувае ўчастковы, яе сын, калі думае пра «нежаночую» прафесію маці. Я напісала пра гэта ў «Фэйсбуку», ідэю падхапіла «Наша Ніва», і ўжо праз тыдзень у іх з'явілася інтэрв'ю з гэтай жанчынай-грузчыкам.

***З 340 прааналізаваных навін толькі 13 прысвечаны тым ці іншым праблемам, звязаным з жанчынамі.***

Не так даўно праходзіў судовы працэс, дзе жанчына спрабавала даказаць, што яе здароўе пагоршылася з-за працы на прадпрыемстве. Можна было развіць яшчэ адну сацыяльную тэму — ці пагражае адміністрацыя звольніць жанчын за тое, што яны напісалі ліст у Камісію па ахове працы пра кепскія ўмовы на вытворчасці. Але такія трапяткія тэмы, падаецца, нецікавыя для многіх СМІ.

Медыяманіторынг паказаў, што дзяржаўныя медыі менш выкарыстоўваюць сэксізм, каб прыцягнуць увагу чытачоў, чым СМІ, якія пазіцыянуюць сябе як незалежныя. Магчыма, гэта звязана з меншай патрэбай у манетызацыі праз датацыі ад дзяржавы. Але і дзяржаўныя, і недзяржаўныя СМІ часта папросту «не заўважаюць» жанчын. Нават калі пісалі пра фотавыставу «Яе справа», медыі не апублікавалі гісторыі жанчын-гераінь, затое пералічылі ўсіх чыноўнікаў, якія выступалі на адкрыцці мерапрыемства.

## Недастатковая крытычнасць

Нядаўна партал *LADY.TUT.BY* запусціў спецпраект пра жанчын у «мужчынскіх» прафесіях. Яго спонсар — прыправа «Мэгі». Жанчына распавядае пра сваю прафесійную дзейнасць, а ў канцы ўсё роўна ідзе абзац пра тое, як яна вяртаецца дамоў, корміць мужа і дзяцей і можа дадаць у суп гэту прыправу. У матэрыялах не праблематызуецца само існаванне спіса забароненых для жанчын прафесій. Пытанні пра асабістае жыццё кшталту ці маеце вы мужа і дзяцей, якая любімая страва ў сям'і самі сабой не кепскія. Яны надаюць вобразу рэльефнасць, жывасць. Але чаму гэтыя пытанні не задаюць мужчынам?

**Падрыхтавала Алена ЛЯШКЕВІЧ**
**Фота Вольгі Хвоін, baj.by**

